# БАЦЬКАЎШЧЫНА



**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

**ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.**

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 49 (279) — Нядзеля 4 сьнежня 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


## Няўжо Жэнэва нічога не навучыць?

Жэнэўская канфэрэнцыя міністраў замежных справаў чатырох вялікадзяржаваў скончылася куды горай, чымся спадзяваліся найбольшыя аптымістыя. У ніводным з пунктаў парадку дня ня было дасягнутае хоць-бы частковае пагадненьне. Сьвет апынуўся на тым самым месцы, на якім быў 18 лютага 1954 году пасьля заканчэньня Бэрлінскай канфэрэнцыі. Молатаў, як і тады, сказаў станоўча свае «нет», і на гэтым разьбіліся ўсе надзеі на ўтрыманьне коэгзыстэнцыйнага «жэнэўскага духу».

Калі з пэрспэктывы гэтых пару тыдняў, якія нас дзеляць ад заканчэньня апошняй Жэнэўскай канфэрэнцыі, хоцьбы павярхоўна прааналізаваць міжнародную палітыку, дык самі сабой насунуцца вельмі сумныя й грозныя на будучыню вывады й прагнозы. Сяньня няма найменшых сумлеваў, што атмасфэра «жэнэўскага адпружаньня», якой было суджана ўтрымлівацца пры жыцьці на працягу ўсяго трох месяцаў, дала Саветам вялікія сукцэсы, дасягнутыя вельмі лёгкім спосабам, а заходняму сьвету такія-ж вялікія шкоды. Вось кароткі білянс савецкіх здабыткаў і заходніх стратаў.

Папершае, палітыка заходніх дзяржаваў, што ліпнёвая Жэнэўская канфэрэнцыя як выразіўся прэзыдэнт Айзэнгаўэр, запачаткавала новую эру, эру магчымасьцяў і дагаварыцца з Савецкім Саюзам, маральна раззброіла Захад і прытупіла ягоную пільнасьць на небясьпеку камуністычнай загрозы. Тая акалічнасьць, калі некаторыя заходнія палітыкі й прэса з кажнай добрай міны ці ўсьмеху Булганіна й Хрушчова рабілі далёкаідучыя вывады аб грунтоўнай зьмене савецкай палітыкі, а на пустых словах савецкіх валадароў будавалі сваю коэгзыстэнцыйную канцэпцыю, рэч ясная, мусіла мець вельмі раскладаючы ўплыў на публічную апінію Захаду.

Другой вялікай шкодай для Захаду было намаганьне на ліпнёвай Жэнэўскай канфэрэнцыі пераканаць лішні раз Саветаў, што Захад ня мае ніякіх рэвізіяністычных намераў у дачыненьні да Савецкага Саюзу і ня думае ў гэтых мэтах выкарыстоўваць сваей часовай мілітарнай перавагі. Гэта канчальна магло ўпэўніць крэмлёўскіх уладароў, што з боку Захаду не пагражае ім ніякая небясьпека, і завастрыць іхныя імпэрыялістычныя апэтыты. Гэта й знайшло сваё сумнае пацьверджаньне ў вапошняй няўступлівай савецкай пазыцыі ў нямецкім пытаньні і ў умелым выкарыстаньні «жэнэўскай адлігі» ў савецкай пэнэтрацыі ў арабскіх краінах Сярэдняга Усходу.

Патрэйцяе, штучна Саветамі выкліканая жэнэўская атмасфэра пры актыўным падтрыманьні Захаду бясспрэчна мусіла калі не заламаць, дык прынамсі зьменшыць надзеі паняволеных бальшавізмам народаў на падтрыманьне іхных вызвольных імкненьняў з боку Захаду. А савецкая прапаганда пры гэтым не забудзецца ўбіваць у галавы сваіх грамадзян, што з боку Захаду яны нічога не павінны спадзявацца, а значыцца мусяць пагадзіцца із сваім сяньняшнім лёсам.

Гэта ўсё бясспрэчныя здабыткі Савецкага Саюзу й страты Захаду. Але гэты білянс здабыткаў і стратаў станецца яшчэ больш грозным, калі мы зьвернем увагу на пытаньне сяньня асабліва важнае, на пытаньне Нямеччыны. Мы ў свой час пісалі, што «нармалізацыя» ўзаемадачыненьняў між Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікай і Савецкім Саюзам, — калі яе наагул можна назваць нармалізацыяй — можа хаваць у сабе вялікую небясьпеку як для Заходняй Нямеччыны, гэтак і для ўсяго Захаду. Але мы тады зацемілі, што канцлер Адэнаўэр паступіў у Маскве так, як ён пры створанай палітычнай сытуацыі паступіць мог. Ён ня мог тады гаварыць з пазыцыі сілы, бо гэтая пазыцыя была пахаваная жэнэўскай атмасфэрай, ён ня мог у сваіх маскоўскіх перагаворах моцна абапірацца на заходнія дзяржавы, бо апошнія рабілі ўсё магчымае, каб захаваць жэнэўскую атмасфэру.

Пасьля ўсяго гэтага Молатаў меў усе дадзеныя сказаць цяпер ў нямецкай справе свае цьвёрдае «нет». Тут варта паклікацца на лёнданскі папулярны ворган «Дэйлі Мэйл». Гэта газэта ў артыкуле «Сьвет у небясьпецы» параўнсвае ліпнёвую Жэнэўскую канфэрэнцыю зь Ялтай і ставіць пытаньне, ці «гісторыя ня скажа, што ў Жэнэве мы згубілі Нямеччыну?» Газэта ўважае, што гэта зусім магчымае. На думку яе, заходнія дзяржаўныя мужы павінны былі спакаваць свае чамаданы, калі Саветы адмовіліся ад вольных выбараў. Яшчэ было-б лепш, калі-б наагул яны ў Жэнэву не паехалі. Маглі адмовіцца ад гутарак да часу, пакуль Саветы ня перасталі-б высылаць аружжа для Эгіпту. «Дэйлі Мэйл» падчырквае, што Саветы ставяць Захаду вызаў як у Эўропе, так і на Сярэднім Усходзе, у Індыі, Бурме і Афганістане. Трэба ім ставіць супраціў, калі сьвет хоча ратавацца перад камунізмам.

Нельга не згадзіцца з ангельскай газэтай, што на нямецкім фроньце Масква можа прынесьці Захаду неаблічальныя шкоды. І яна да гэтага выразна й станоўча ідзе. Саветы ясна паставілі справу, што задзіночаньня Нямеччыны шляхам вольных выбараў яны не жадаюць і на яго ня згодзяцца, бо тады ўся Усходняя Нямеччына выйшла-б з пад іхнага ўплыву. Затое гэтае задзіночаньне паводля савецкага рэцэпту павінна быць адначаснай савецізацыяй усяе Нямеччыны. Аб гэтым Молатаў сказаў у Жэнэве зусім выразна. Як відаць з далейшых савецкіх ходаў, цяпер Саветы будуць старацца даўжэйшы час не падыймаць нямецкага пытаньня, уважаючы, што час працуе на іх карысьць. Яны цяпер умацоўваюць «сувэрэннасьць» Усходняй Нямеччыны і ўмацоўваюць канцэпцыю, што ў нямецкім пытаньні павінны гаварыць толькі самі Немцы, г. зн. свабодная Заходняя Нямеччына з маскоўскім сатэлітам — Усходняй Нямеччынай. А каб для ажыцьцяўленьня гэткае канцэпцыі прывесьці, яны будуць намагацца спачатку прыгатаваць адпаведны грунт у Заходняй Нямеччыне. Гэта і мела Масква на мэце, калі заініцыявала нармалізацыю ўзаемадачыненьняў між Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікай і Савецкім Саюзам. Не бяз вымовы астаецца й факт, што на становішча савецкага амбасадара ў Бонн Масква, ня пытаючы папярэдняй згоды заходнянямецкага ўраду, — што ў такіх выпадках нармальна робіцца — вызначыла такую одыёзную фігуру, як Зорына, які кіраваў у свой час камуністычным пераваротам у Чэхаславаччыне. Калі-ж Бонн паўстрымаўся з выражэньнем сваей згоды на гэтую кандыдатуру, дык Саветы ўстрымалі звальненьне нямецкіх ваеннапалонных. З тых няцэлых дзесяцёх тысяч нямецкіх палонных, якіх Масква згадзілася звольніць, дагэтуль вярнулася толькі каля 40%, і прыблізна ад месяца часу перасталі прыбываць новыя транспарты з ваеннапалоннымі. Не бязь цікавасьці варта адцеміць і тое, што Саветы запрапанавалі разбудаваць у Заходняй Нямеччыне свой «дыпляматычны пэрсанал» у колькасьці ад 350 да 400 асобаў — шпіёнаў і дывэрсантаў, забясьпечаных дыпляматычнай недатыкальнасьцю.

Гэтак некаторыя важныя палітычныя крокі ў сувязі зь нямецкім пытаньнем, зробленыя пад уплывам жэнэўскай атмасфэры, хаваюць у сабе шмат чаго загадкавага й небясьпечнага.

Што апошняя Жэнэўская канфэрэнцыя пацярпела поўны правал, мы з гэтага толькі цешымся. Цешымся не таму, што жадаем павароту да халоднае вайны, але таму, што канфэрэнцыя гэтая прынамсі разьвеяла небясьпечныя ілюзіі, у палоне якіх апынуўся быў Захад. Бо калі-б і гэтая канфэрэнцыя закончылася тымі-ж усьмехамі і прыемнымі словамі, якія сыпаліся на ліпнёвай канфэрэнцыі ў Жэнэве, дык Захад і далей мог-бы каціцца па лініі маральнага й палітычнага раззбраеньня. Затое цьвёрдае «нет» Молатава, сказанае на апошняй канфэрэнцыі павінна прымусіць Захад задумацца, што, далей гэтак нельга, што трэба шукаць нейкага больш рэальнага выхаду з сытуацыі.

І сяньня на Захадзе, асабліва ў Амэрыцы ўжо пачынаюцца падносіцца галасы з дамаганьнем грунтоўнае рэвізіі дасюлешняе палітыкі й шуканьня для яе новых шляхоў. Пакуль што гэтыя галасы яшчэ ня зусім сканкрэтызаваныя, ня зусім скаардынаваныя, але сам факт, што яны высказваюцца многімі адказнымі палітыкамі, ёсьць зьявішчам пацяшаючым.

**Л. К.**

## Камсамол на Беларусі

На Беларусі ўжо ад даўжэйшага часу вядзецца крыклівая падрыхтоўчая кампанія да так званага «абмену камсамольскіх дакумантаў», які мае адбыцца ў пачатку наступнага году. Уся гэтая імпрэза спатрэбілася бальшавіком па тое, каб разварушыць крыху заскарузлы ў фармалізьме й бюракратызьме «ленінскі» камсамол. Гэтае ажыўленьне, у сваю чаргу, выкліканае недалёкім XX-м зьездам савецкае кампартыі.

Паводля таго, як прайходзіць падрыхтоўка да абмену камсамольскіх білетаў і ўлікавых картак, можна вельмі наглядна зар'ентавацца наагул у стане гэтае арганізацыі на Беларусі.

Аб чым-жа пераконваюць нас бліжэйшыя назіраньні за ходам камсамольскіх канфэрэнцыяў, накіраваных на «абмен дакумантаў»? — Бяссумлеўна, яны пацьвярджаюць тыя весткі, што прыносяць на Захад пабочныя асобы, якія пабылі нядаўна на Беларусі.

Беларуская моладзь усялякімі спосабамі намагаецца ўнікаць камсамольскае арганізацыі, што сталася бязвольнай прыладай у руках крамлёўскае дыктатуры. Гэтыя настроі беларускае моладзі вельмі выразна характарызуе і сымбалізуе такі выпадак, апісаны ў «Чырвонай Зьмене» з 22 кастрычніка сёлета.

У Бабруйску нядаўна адбылася раённая камсамольская канфэрэнцыя. Апісаньне яе пачынаецца такім малюнкам: **«Дэлегаты раённай канфэрэнцыі накіроўваюцца ў залю. Чамусьці амаль усе яны ўсаджваюцца на задніх радох. І атрымалася так, што першыя 5—6 радоў крэслаў засталіся пустыя. Ад гэтага ў залі неяк няўтульна...»** Гэты характэрны й нядвузначны псыхалягічны мамэнт красамоўна пярэчыць усёй савецкай хлусьні аб актыўнасьці беларускае моладзі ў камсамоле. Ад гэтае незайздроснае ролі моладзь цісьнецца на заднія рады, у куткі. Бо яна й адтуль добра чуе ўсю нуду дакладаў сваіх сакратароў, пасьпісваную й зазубраную на мінулагодніх канфэрэнцыях, як гэта мела месца, у прыватнасьці, на тэй-жа бабруйскай раённай канфэрэнцыі з двухгадзінным дакладам першага сакратара райкому.

Беларуская моладзь вельмі добра ведае, што значыць быць камсамольцам. З аднаго боку быць камсамольцам — гэта стацца першай ахвярай усялякіх экспэрымэнтаў дыктатуры. Быць камсамольцам — гэта быць нявольнікам, долю якога вырашае ЦК; гэта быць сьляпым выконвальнікам волі дыктатараў. Ці-ж казахстанская цаліна ня довад гэтаму? Ці-ж камсамольскія арганізацыі ня выганялі сілай і шантажом сваіх сяброў на выезд у дзікія стэпы? «Быць усюды, дзе цяжка», як заклікае савецкая прапаганда — гэта яшчэ далёка ня ўсё. Можна быць і «там, дзе цяжка», але важна, каб быць вольнымі людзьмі, з чалавечай годнасьцяй, а не бязвольнай масай на ўслугах праступнае клікі.

З другога боку, быць камсамольцам такім, як гэтага хочуць камсамольскія партыйныя апякуны — гэта значыць быць крывадушным, няшчырым, даношчыцкім. Гэта значыць быць прапагандовай крыкушай на халуйскіх услугах партыйных верхаводаў.

Беларуская моладзь наважана змагаецца супраць такога маральнага паняволеньня. Змагаецца перш за ўсё нежаданьнем уваходзіць у камсамольскія арганізацыі. Аб гэтым вельмі добра сьветчаць бязупынныя нараканьні савецкіх газэт на малакольканасьць камсамольскіх арганізацыяў, асабліва на сяле. Моладзь супраціўляецца ня толькі ўніканьнем ад уваходу ў камсамол. Яна ня спыняе гэтага супраціву й тады, калі яе рознымі спосабамі ўцягваюць у гэтую арганізацыю. Аб гэтым найлепш якраз і сьветчыць стан асабістых улікавых картатэк камсамольскіх арганізацыяў на Беларусі. Бо аб чым-жа іншым можа, прыкладам, казаць такое цьверджаньне, узятае з «Чырвонае Зьмены» за 2 лістапада сёлета: **«На 1 ліпена ў Гомельскай вобласьці налічвалася звыш цяці тысяч членаў камсамолу, што выбылі бяз зьняцьця з уліку»**; або штосьці такое з таго-ж самага нумару газэты: **«У Чыгуначным раёне Гомелю налічваецца больш за 700 камсамольцаў, якія выбылі за межы раёну бяз зьняцьця з уліку».** Аб такіх-жа фактах нефармальнага, сказаць-бы выступленьня з камсамолу мы даведваемся таксама зь 9 нумару камсамольскага месячнага часапісу **«Маладосьць»**, які піша: **«У Радашковіцкім райкоме камсамолу да нядаўнага часу ня ведалі, куды дзеліся 79 камсамольцаў. У сьпісах гэтак і значылася: „Невядома куды выбылі”».** Або там-жа: **«У Фрунзенскім райкоме камсамолу места Менску да нядаўнага часу захоўвалася больш, як паўтысячы ўлікавых картак камсамольцаў, якія даўно выбылі зь Менску».**

Ня трэба хіба лішне даводзіць, што калі сябра арганізацыі, на якой яму не залежыць, ня вымальдоўваецца зь яе пры ад'езьдзе із старога месца, дык ён напэўна ня прымальдуецца прыехаўшы й на новае. Для такіх камсамольцаў савецкія статыстыкі знайшлі вельмі трапны тэрмін — «мёртвыя душы». Беларускі камсамол і складаецца якраз у сваёй пераважнай бальшыні з такіх «мёртвых душ». Сяньня гэта найлепшая й найбольш пашыраная сярод беларускае моладзі форма ўніканьня «ленінскага» камсамолу. Прыведзеныя вышэй факты (а пералічваць іх можна тысячамі) найлепш даводзяць, што нашая моладзь мае здаровы інстынкт і арганічна ня ўспрыймае духовае камуністычнае нарасьлі. Яна ўсімі спосабамі змагаецца супраць яе, і чарговая кампанія «абмену камсамольскіх білетаў» напэўна ня прыдбае для камуністычнае ідэялёгіі больш прыхільнікаў на нашай Бацькаўшчыне.

**Р. Л.**

## Страшны цень зімы над Беларусяй

Рэдка мне даводзіцца чытаць савецкія газэты, але вось на днёх трапіў мне нейк адзін адзінюсенькі нумар менскае «Зьвязды». Дай, думаю, гляну, што-ж там дома робіцца. Зразумела, пачынаю ад праграмовага перадавога артыкулу: «Пасьпяхова завяршыць сельскагаспадарчыя работы сёлетняга году». Прабег гэта я вачыма па двух калёнках друку і бачу — э, брат, справа дрэнь:

### Калгасныя стрэхі йзноў у небясьпецы

Звычайна, у лістападзе, калі пачынаюцца прымаразкі, ужо можна сьмела падсумоўваць вынікі сельскагаспадарскага году. Таксама сьмела можна сказаць, што сельская гаспадарка ад лістападу пачынае жыць коштам таго, што зроблена да лістападу. Лета зіму корміць, кажуць людзі. Чым-жа будзе карміць узімку жывёлу й людзей на Беларусі калгаснае лета? Адказ на гэтае пытаньне дае той-жа перадавы артыкул «Зьвязды» з **12 лістапада(!):**

«Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на завяршэньне збору ўраджаю. Недаравальна, што да сяньняшняга дня ў шэрагу раёнаў ня справіліся із зборам ураджаю... У шэрагу сельгасарцеляў не нарыхтавана й палавіны патрэбнае колькасьці сакавітых кармоў. У Смалявіцкім, Лагойскім, Любанскім, Глускім, Старобінскім, Плешчаніцкім ды іншых раёнах Менскай вобласьці паранейшаму пустуюць сотні капітальных сіласных збудаваньняў... Вельмі важна арганізаваць зь першых дзён стойлавага пэрыяду жывёлы правільнае, эканомнае выдаткаваньне кармоў. **Нельга дапусьціць паўтарэньня памылак мінулых год, калі ў некаторых калгасах у выніку адсутнасьці строгага ўліку й барацьбы за рацыянальнае выдаткаваньне кармоў увесну на фураж даводзілася „пускаць” саламяныя стрэхі...»**

Нажаль, перасьцярогі партыйных бюракратаў — адно, а апэтыт жывёлы — другое...

☆

А, думаю, хто салому ўмее жаваць, той не прападзе — на Беларусі саламяных стрэх хопіць. А не, дык хоць костка ў суп будзе... Бяда яе, думаю, бяры з жывёлай. Перагарнуў першую балону. Дай лепш гляну, як там пра чалавека дбаюць. А тут табе й загаловак у вочы кідаецца: «Больш бульбы й гародніны насельніцтву гарадоў!» Во, думаю, савецкае насельніцтва гэта табе не калгасны статак! Але прыгледзеўся я крыху бліжэй, дык аж вачом не паверыў. Брэшуць, думаю, прапагандыстыя — бо як гэта можа быць,

### Каб у Менску ды ня было буракоў і цыбулі!

Не хацелася мне верыць, але што ты зробіш, калі табе тут чорным па белым: «Калгасы нашай рэспублікі адгрузілі працоўным Ленінграду звыш 90 тысяч тон бульбы — амаль удвая больш, чым летась (а для ўсіх гарадоў Беларусі плян прадугледжвае ўсяго 110 тыс. тон). Шмат бульбы адгружана таксама ў Карэла-Фінскую ССР і іншыя раёны Поўначы. Аднак з завозам бульбы для насельніцтва Менску й іншых местаў Беларусі нарыхтоўчыя арганізацыі адстаюць... Ёсьць выпадкі, калі асобныя сельскія магазыны адмаўляюцца прыймаць ад калгасаў сельскагаспадарскую прадукцыю з-за нястачы складаў...

«Трывожнае становішча стварылася ў Менскай вобласьці. Справа дайшла да таго, што **бульбу ў Менск неабходна завозіць з Гомельскай і іншых вобласьцяў рэспублікі.**

**«А паспрабуйце знайсьці ў магазынах Менску звычайныя сталовыя буракі, цыбулю.** Работнікі спажывецкай каапэрацыі Менскай вобласьці абыякава аднесьліся да выкананьня пляну нарыхтоўкі гародніны... Ёсьць нямала выпадкаў, калі вагоны зь няпрыкрытай бульбай падоўгу стаяць на дварэ і клубні пачынаюць падмярзаць...»

У Ленінград, значыцца, 90 тысяч тон, а самі — зубы на паліцу...

Што-ж гэта за насланое, думаю: у лістападзе ды ўжо бяз бульбы ды буракоў сядзець. Давай я шукаць па цэлай газэце высьненьня гэтае загадкі. І што вы думаеце — знайшоў! На тэй-жа балоне цэлы правы падвал тлумачыць мне

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# «Між Нёманам і Дзьвіной»

Гэтак завецца абшырная манаграфія Т. Лапалеўскага (эпілёг А. Багуслаўскага) прысьвечаная Віленшчыне й Наваградчыне, што ў гэтым годзе была выдадзеная «Выдавецтвам Польскім» у Лёндане ў г. зв. цыклі «Цуды Польшчы». Ужо сам факт, што «Між Нёманам і Дзьвіной» уваходзіць у цыкль з такім назовам, зусім ясна гаворыць сам за сябе.

Назваць гэтую кніжку манаграфіяй у поўным значэньні гэтага слова, як гэта робіць выдавецтва, даволі цяжка. Прачытаўшы яе, атрымоўваецца хутчэй уражаньне, што гэта альбум-успаміны сэнтымэнтальнае й да бязьмежнасьці патрыятычна настроенае колішняе гімназісткі, якая з сумам і мэлянхоліяй успамінаючы мінулыя шчасьлівыя гады маладосьці, яшчэ раз з асалодай перапісвае свой альбум-успаміны.

Кніжка была напісана да вайны, а ў цяперашнім выданьні да яе дададзена ў форме эпілёгу частка, што абыймае, а фактычна вельмі павярхоўна аглядае ваенны пэрыяд ды аргумэнтацыю польскасьці гэтых земляў і вернасьці жыхарства польскай справе. Так, як, відаць, перадваенны тэкст ня быў зьменены, дык нічога дзіўнага, што зусім ня верыцца, каб такая кніжка магла выйсьці ў 10 гадоў пасьля апошняе вайны. Як і ў падобных перадваенных польскіх выданьнях, тут усё пачынаецца ад словаў Пілсудзкага, каб перайшоўшы праз паасобных каралёў ды герояў тыпу «Пане Коханку» Радзівіла, закончыць ізноў «малым Зюкам», Зулавам ды «сэрцам маршалка». Тут мы знойдзем і мінулую славу «польскіх» сыноў гэтых земляў, і польскую «моцарствовасьць», дасканаласьць польскае культуры й ейны «добратворны» ўплыў на амаль першабытных аўтахтонаў, а перадусім шляхоцкую рамантыку двароў і дворыкаў ды блеск і пыху княжых палацаў. Двор польскага абшарніка ці навет дворык «схамелага» шляхціца тут падносіцца да вышыні сьвятыні культуры, г. зн. польскасьці.

Польскасьць гэтых земляў, зразумела, аўтар зусім ня ставіць пад сумлеў, хаця й дадае, што гэта наагул землі, на якіх жыве цэлая мазаіка народаў, зь якіх пасьля Палякаў найважнейшымі зьяўляюцца Беларусы, Летувісы, Жыды, Расейцы, Татары й Караімы, ды што няма ніякага кусочка гэтае зямлі, дзе-б які-небудзь з гэтых народаў жыў у стопрацэнтнай масе.

Наагул тут мала знойдзецца такіх цьверджаньняў аўтара, зь якімі аб'ектыўны чалавек мог-бы пагадзіцца, і калі-б палемізаваць у справах гэтых цьверджаньняў, дык трэба было-б проста напісаць другую гэтакіх-жа памераў кніжку. Аднак, каб ня быць галаслоўным і не ствараць уражаньня якоесь тэндэнцыйнасьці, тут будзе хіба на месцы падаць хаця-б пару прыкладаў падобных цьверджаньняў.

Вось, прыкладам, на бач. 34 мы даслоўна чытаем: «Мовай, якая **побач польскай** (падкр. мною — А. Г.), найчасьцей гучэла ў віленскай і наваградзкай вёсцы, ёсьць мова беларуская». Мова польская на вёсцы? Аўтар гэтых радкоў сам радзіўся й рос на вёсцы ў б. Дзісенскім павеце, але бываў таксама і ў сумежных паветах, а перадусім Пастаўскім. Так, мова польская часамі, гучэла ў вёсках Віленшчыны, але гэта бывала толькі тады, калі ў вёску прыяжджала паліцыя ці сэквэстратар, і звычайна тады, польская мова суправаджалася праклёнамі й лямантам жанок. На гэта адумысловых доказаў ня трэба: тут жывым дакумантам зьяўляцца ўсё жыхарства Заходняе Беларусі ўключна з сумленнымі Палякамі.

«. . . Паколькі Беларуса чыстай крыві належала-б акрэсьліць — бяручы на ўвагу рысы ягонага характару . . . — як тып жыцьцёва незарадны й нятворчы, пастолькі мешаніна крыві беларуска-польскай з дамешкай летувіскай . . . дае наагул адзінкі вартасныя, а часта панад сярэднюю меру» (б. 41). Ці-ж не пасьлейшая рэдакцыя расавае гітлераўскае тэорыі, калі правалілася першая рэдакцыя? (Тут у форме адхіленьня прывядзем чытачом урывак з «Тутэйшых» Я. Купалы, дзе г. зв. Заходні (польскі) вучоны дасьледжвае пытаньне Беларусаў ды запісвае вынікі сваіх досьледаў: «Януш Здольніцкі. Незаводне тып Всходне-Крэсовэго поляка з немалон дозон крві познаньско-гуральскей. . . . Мова ойчыста — огульно-польска, незвычайне удосконалёна, ено з велькон домешкон незрозумялых слув»).

У разьдзеле «XX гадоў незалежнасьці» аўтар расьпісваецца аб усіх дабрадзействах, якія Палякі прынесьлі гэтым землям. Аказваецца — яны і вёску «абкультурылі», разбудавалі сетку шосаў і чыгунак, паднялі дабрабыт вёскі, узьнялі на належны ўзровень справу школьніцтва ды наагул асьветы. Чужынец, які ня бачыў на свае вочы ўсіх гэтых дабрадзействаў, можа й паверыць, але толькі ня жыхар Віленшчыны ці Наваградчыны.

Аднак-жа калі папярэднія разьдзелы могуць выклікаць у аб'ектыўнага чытача найвышэй усьмешку недаверу, дык з апошняга разьдзелу — эпілёгу п. н. «Верная Зямля» вее цынізмам, які мімаволі выклікае зьдзіўленьне й нясмак.

У пачатку гэтага разьдзелу ставіцца перад чытачом праблема: «Напэўна людзі скажуць табе, што прыйшоў канец польскасьці між Нёманам і Дзьвіной, што гэтак сталася з волі карэнных жыхароў гэтае краіны і што адбыўся працэс беспаваротны, на які няма рады». І далей ужо аўтар з шляхоцкай фантазіяй «разьвязвае» гэтую праблему пазытыўна для польскасьці ды абнадзейвае сваіх суродзічаў, паклікаючыся на адвечную вернасьць жыхароў гэтых земляў польскай справе. Гэтая вернасьць, паводля аўтара, ня выгасае так лёгка і, як прыклад, прыводзіцца тут дзейнасьць польскіх партызанаў на гэтых землях у часе вайны, дзе, як ізноў даказвае аўтар, мелі яны сымпатыі й падтрымку мясцовага насельніцтва, у вабароне якога быццам яны змагаліся. Даслоўна чытаем: «Так, прыкладам, у Наваградчыне аддзелы гэтыя за час свайго існаваньня мелі зь Немцамі каля 150 баёў і сутычак, а апрача гэтага 80 баёў у вабароне мясцовага жыхарства» (б. 242). Вось дзе клясычны савецкі падыход да падзеяў мінуласьці: з чорнага робіць белае і наадварот.

Праблему польскіх «партызанаў», як і наагул калябаранцкую дзейнасьць Палякаў на гэтых землях у часе вайны пара была-б ужо разгледзець больш дэтальна, каб нарэшце паказаць навет тым Палякам, якія запраўды пралівалі кроў за польскую справу, як тут іхныя «крэсовыя» суродзічы вялі сябе. Думаем, што навочныя сьветкі «дзейнасьці» польскіх партызанаў, асабліва ў Лідчыне ды Наваградчыне, займуцца гэтай справай. На гэтым-жа месцы толькі коратка сьцьвердзім, што ў пачатку акупацыі Палякі тут шмат дзе, зь ведама й апрабаты ды пры падтрымцы Немцаў, захапілі ў свае рукі адміністрацыю, ды выкарысталі гэта для расправы зь Беларусамі. Правакацыяй, ілжой, падкупамі яны выдавалі ў рукі каральных органаў тысячы Беларусаў. Польская паліцыя на нямецкай службе пад маркай змаганьня з камунізмам расстрэльвала беларускі актыў, грабіла й зьдзеквалася над насельніцтвам. Нярэдка ад гэтых «герояў» даводзілася шукаць аховы ў

(Заканчэньне на 3-ай бачыне)

# Менск падымаецца з руінаў

**Ніжэй зьмяшчаем артыкул ведамага амэрыканскага знатака Савецкага Саюзу й выдатнага журналістага Гары Шварца, які нядаўна прабыў пяць тыдняў у Савецкім Саюзе. Наступны артыкул — аб становішчы нерасейскіх народаў у СССР — будзе зьмешчаны ў наступным нумары «Б-ны».**

**Сэрыя артыкулаў Шварца была зьмешчана ў «Нью Ёрк Таймс».**

**Рэдакцыя**

Менск, які быў амаль зусім разбураны ў другой сусьветнай вайне, вырастае йзноў яшчэ большы й прыгажэйшы. Але для гэтага вымагаецца яшчэ шмат працы.

Галоўны архітэктар места Леў Мацкевіч падаў сяньня ваенныя зьнішчэньні: уся прамысловасьць, камунальная гаспадарка, школы й бальніцы былі зьнішчаны, а таксама 80% жыльлёвых дамоў. Ён паказаў здымкі палатак, у якіх мусілі жыць мянчане 10 год таму з-за нястачы іншых жыльлёвых магчымасьцяў.

Сяньня 450-тысячнае насельніцтва амаль удвая большае, чымся яно было ў 1940 годзе, у той час, як жыльлёвая плошча ўзрасла каля паўтара разы за гэты пэрыяд.

Пачынае фармавацца новае места з шырокімі бульварамі, мадэрнымі чатырохпавярховымі жыльлёвымі дамамі, вялічэзнымі дзяржаўнымі будынкамі й паркамі. Бальшыня новых будынкаў пабудавана наабапал або каля Сталінскага праспэкту — галоўнай магістралі. Пасьля заканчэньня, Сталінскі праспэкт будзе каля 6 міляў (9 км) даўжыні. Дасюль збудавана каля 2 міляў гэтае магістралі з дамамі наабапал. У міжчасе, шмат хто ў гэтым перапоўненым месьце мусіць жыць дзе можа. Места ўсеянае малымі драўлянымі будкамі, скалочанымі пасьля вайны. Як вынік, Менск робіць уражаньне двух местаў: адно — мадэрных будынкаў, другое — хацінак.

У наступным годзе Менск спадзяецца мець свой газ, і цяпер будуецца трубаправод паміж Менскам і крыніцай газу ў Заходняй Украіне, аддаленай 42 мілі (?).

Былі пабудаваныя 52 школы для дзяцей, і будуюцца далейшыя 34. Шмат школаў мусяць працаваць яшчэ на дзьве зьмены, бо не хапае клясных пакояў.

Колькасьць менскае школьнае моладзі непрапарцыянальна разьдзелена між першымі трыма клясамі і наступнымі чатырмя. Падчас і адразу пасьля вайны колькасьць народзінаў была вельмі нізкая, і таму вельмі мала дзяцей у веку ад 9 да 15 год.

Аднак першыя клясы школы ілюструюць пасьляваенны ўзрост народзінаў, што якраз і стварае «школьную праблему».

Пасьляваенны ўзрост насельніцтва Менску, відавочна, выплывае з разьвіцьця цяжкое прамысловасьці. Перад гэтым, націск клаўся на тэкстыльную прамысловасьць гатовых вырабаў.

Акрамя адбудаваньня зьнішчанага мяшана-будаўнічага заводу. Саветы пабудавалі тут вялікія аўтамабільныя й трактарныя заводы. Менскі аўтамабільны завод выпускае самаходы «Пабеда», падобныя да перадваенных «Фордаў» і «Шэўралетаў»; трактарны завод выпускае галоўным чынам землеробскія трактары «Беларусь».

# Страшны цень зімы над Беларусяй

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

сваім загалоўкам, што «Ахова сацыялістычнае ўласнасьці — важнае заданьне». Парыўся я крыху пад загалоўкам і бачу — справа памаленьку выясьняецца:

**П'яніцы й прайдзісьветы на мужыцкім каўняры**

Значыцца, вось чаму ў беларускай сталіцы цыбулі нельга дастаць:

«З сыгналаў, якія падаюць грамадзяне, і матар'ялаў кантрольна-рэвізійных ды сьледча-судовых органаў Беларускай ССР відаць, што барацьба з крымінальнай злачыннасьцяй, з такімі яе найбольш небясьпечнымі відамі, як растраты й раскраданьні дзяржаўнай і грамадзкай маемасьці, яшчэ ня ўсюды праводзяцца дастаткова наважана. Некаторыя работнікі сьледча-судовых органаў дапускаюць маруднасьць пры разглядзе гэтых справаў, у шмат якіх выпадках своечасова ня прыймаюць мераў да раскрыцьця злачынства.

«Часьцей за ўсё раскраданьні зьвязаны із стварэньнем лішкаў пры нарыхтоўках сыравіны й матар'ялу для прамысловай перапрацоўкі, а таксама пры нарыхтоўцы сельскагаспадарскіх прадуктаў. Створаныя лішкі ў шэрагу выпадкаў рэалізоўваюцца, пры чым нярэдка праз гандлёвую сетку, а выручаныя грошы прысвойваюцца. З мэтай стварэньня лішкаў злачынныя элемэнты становяцца на шлях абмеркаваньня, абважваньня ды аблічваньня, зьніжаюць якасьць прамысловай сыравіны, складаюць фіктыўныя акты, выпісваюць беставарныя квіткі й г. д. . . . На матар'яльна-адказныя пасады часам назначаюцца асобы, раней суджаныя або звольненыя з працы за растраты й раскраданьні, п'яніцы ды прайдзісьветы . .»

А, думаю, сталіца — вялікае места, там запраўды могуць усялякія жулікі быць. Але зірк я гэта на калёнку побач і бачу, што й

**На сяле ня лепш: места бяз бульбы, а вёска бяз солі**

Там, праўда, на цыбулю з буракамі мо й не галадаюць, але ўсяроўна тая-ж бяда — толькі з другога боку кусае. «Абураючыя беспарадкі» завецца гэтым разам карэспандэнцыя пра Драчкаўскае сельпо Смалявіцкага раёну. Нейкі В. Давыдзюк так і піша: «Ніхто не клапоціцца аб тым, каб у магазыны завозілі тавары неабходнага асартымэнту. **Месяцамі ў нас нельга набыць газы, солі, папяросаў, цукерак і іншых тавараў . . .»**

Адны — бяз буракоў і цыбулі, другія — бяз газы й солі . . . Колькі-ж, думаю, цярпець можна? Чаму-ж гэта ніхто не пратэстуе супраць гэтага? Ажно не — бачу — цярпець то там церпяць, але не забываюцца і на адну вельмі справядлівую пагаворку:

**Дар за дар . . .**

«Менскі трактарны завод, Кавальскі цэх . . .

«У 1955 годзе ягоны калектыў толькі на працягу чатырох месяцаў выконваў устаноўленыя заданьні. Дрэнная праца цэху адмоўна ўплывала на працу ўсяго прадпрыемства . . .

«Шмат мэталю йдзе ў брак з прычыны таго, што цэх захламлены. У выніку, годныя дэталі часта трапляюць у вадну кучу з бракаванымі. Папсаваныя дэталі, як правіла, не папраўляюцца, а йдуць у лом. Таму тут **страты ад браку за 8 месяцаў склалі 900 тысяч рублёў . . .»**

*

Даўненька я ня чытаў менскіх газэт. Пазнаёміўся цяпер з адным нумарам «Зьвязды» і думаю, што йзноў месяцаў зь дзесятак можна будзе спакойна сядзець. Мо напішу толькі ў міжчасе пару слоў у «Камітэт для павароту на бацькаўшчыну», што, бачыце, візыту сваю ў Менск адкладу я, відаць, да наступнай восені. Ану-ж налета цыбуля з буракамі лепш уродзіць! . . .

**Р. Л.**

**ЯКУБ КОЛАС** 6)

# У палескай глушы

— Я, вось, буду прасіць пана настаўніка, каб цябе часьцей на калені ставіць ды яшчэ грэчкі падсыпаць.

— У пана настаўніка і грэчкі няма, — сказала Ядвіся і ўськінула на настаўніка свае вясёлыя сьмяшлівыя вочы.

Лабановіч зірнуў на яе. «Слаўная дзяўчынка», — падумаў ён.

— Ну, то я прышлю, цэлую асьміну прышлю, — сказаў падлоўчы.

— Чэсь будзе такі добры ў мяне вучань, што да грэчкі ў нас ня дойдзе. Праўда, Чэсю?

Сёстры зноў засьмяяліся. Чэся яны знай лепей і, як відаць, сьхіляліся да погляду таткі наконта грэчкі.

Чэсь-жа ўгнуў галаву, ня зусім пэўны ў тым, што для яго справа можа абыйсьціся бяз грэчкі.

— Ну, як там гарбата? — спытаў Баранкевіч жонку.

Пані пэдлоўчая зараз-жа ўстала, кіўнула Габрыні і вышла разам зь ёю.

Стол заслалі, прынесьлі талеркі зь вяндлінаю, якую так добра ўмеюць прыгатаўляць на Беларусі, і селі піць чай. Лабановіч пачуваўся добра і вольна і ўвесь час вёў размову то з гаспадарамі, то з паненкамі. Пан падлоўчы, выпіўшы шлянку, устаў, папрасіў прабачэньня, што ня можа больш заставацца, што ён мусіць ехаць па службе, і вышаў.

Пасьля гэтага паненкі пачулі сябе вальней. Яны сьмяяліся, жартавалі, распытвалі настаўніка аб усім: ці быў ён у валасьці, зь кім там пазнаёміўся і як каго знаходзіць.

— А вы ня знаеце панны Марыны? — запытала настаўніка Ядвіся.

—А хто яна такая? — спытаў Лабановіч.

— А тут на будцы ёсьць адна панна.

— Я сяньня спаткаў адну вельмі прыгожую дзяўчыну якраз на чыгунцы. Можа, гэта і ёсьць панна Марына?

— Так, гэта яна, — прамовіла Ядвіся, распытаўшыся, як яна выглядае.

Паненкі на разьвітаньне колькі разоў напаміналі Лабановічу, каб ён часьцей заходзіў да іх.

## X

Якраз за дзень да Ўводзін Прасьвятое Багародзіцы, сьвята, якое прыпадае на 21 лістапада, у вёсцы Цельшына паўстала вельмі важнае пытаньне аб тым, калі сьвяткаваць гэта сьвята: сяньня ці заўтра? І паўстала гэта пытаньне, як зазвычай усе важныя пытаньні, выпадкова.

Старая Лукашыха, Аўгеня, прышла да свае суседкі Югасі пазычыць падсітак прасеяць мукі. Прышла яна якраз у той час, калі трэба ўжо тушыць у хаце агонь. Аўгеня зразу-ж зьвярнула ўвагу, што ў хаце суседкі былі ўсе адзнакі сьвята: прасьніцы вынесены вон, мужчыны ня ўсе яшчэ былі абуты, а сама Югася падбівала цеста на аладкі і печы не падпальвала.

— Што-ж гэта ў вас, дзеўка, як-бы сьвята?

У Цельшыне быў такі звычай, што адна старая жанчына, зварачаючыся да другой, казала ёй «дзеўка».

— А хіба-ж ня сьвята? — прамовіла Югася і зірнула на суседку.

— Як сьвята? Што ты, дзеўка, гаворыш?!

— А так што сьвята! — цьвёрда і пэўна адказала Югася.

— Ах, Божачка мілы! А я-ж думала, што заўтра! — уськінула рукамі Аўгеня: — Лукаш мой даўно пайшоў у клуню малаціць грэчку! . . І сама я ўсю раніцу прала! . . А-а, як-жа я гэта думала, што сьвята заўтра? Ах, матачкі мае родныя!

Аўгеня борзьдзенька павярнулася і вышла з хаты, навет і падсітак забылася пазычыць. Вышаўшы на вуліцу, яна на хвіліну прыпынілася, а потым раптоўна кінулася да Нупрэя Бабка.

— Што я прышла ў вас спытаць: сяньня сьвята ці заўтра? — запытала Аўгеня і акінула вачамі хату.

Нупрэй зусім яшчэ не падымаўся, ляжаў сьпіною на печы і грэўся, як кот, падкорчыўшы доўгія ногі, бо яны, хоць печ была і прасторная, не маглі на ёй, як мае быць, зьмясьціцца.

— А пэўне, сяньня, — адказаў ён зь печы.

Праўда, Нупрэеў голас вялікага аўтарытэту нідзе наогул ня меў, а ў пытаньнях сьвята тым болей, бо Нупрэй Бабок нічога ня меў проці таго, каб сьвяткаваць і будныя дні. Але і Маланьня, жонка яго , таксама пасьветчыла, што сьвята сяньня.

— Ах, матухны, — зноў пляснула рукамі Аўгеня: — Усе людзі сьвяткуюць, адна я, як тая дурная калатоўка, соваюся: ні сьвята, ні спакою ня бачу. — І яна ледзь не бягом вымелася з хаты і пабегла дамоў.

Надта знаёмае тухканьне ў Міколкі Стукача адразу затрымала Аўгеню на месцы: калі сьвята, дык чаму-ж у Стукача таўкуць ячмень?

Ня думаючы доўга, Аўгеня кінулася да Стукачовых. Першае, што ўбачыла яна там, была ступа і дзьве маладзіцы, нявесткі дзеда Стукача: маладзіцы стаялі адна насупраць другой з таўкачамі і заложна таўклі куцьцю. Міколка Стукач, лысы дзед зь сівой бародкаю, падплятаў лапаць. Бабка Стукачыха прала кудзелю. Грук таўкачоў глуха аддаваўся па хаце, і пасьля кажнага ўдару штось бразгацела на паліцы, дзе стаялі міскі з лыжкамі.

Зьдзіўленая Аўгеня спынілася на парозе.

— А хіба-ж сяньня ня сьвята? — спытала яна.

— Якое сьвята? — сярдзіта зірнуў на яе дзед Міколка.

— Вось, скажэце, мае мілыя: як-бы хто туману напусьціў, — прамовіла Аўгеня, зьбітая з тропу: — Адны сьвякуюць, другія кажуць, што сьвята няма.

— Хто сьвяткуе? — запытала бабка Тацяна.

— Я і сама думала, што сьвята павінна быць заўтра, аж прыходжу да Рамковых — сьвяткуюць, Югася аладкі падбівае; зайшла да Бабковых — і там сьвяткуюць. Прыходжу да вас, — у вас тут будны дзень. Каму-ж верыць?

—А можа, і сяньня сьвята, — ужо іншым тонам пачаў разважаць дзед Стукач.

Маладзіцы прыпынілі работу. Адна абаперлася на таўкач, ня вымаючы яго із ступы, а другая трымала таўкач у руцэ. Яны таксама задумаліся.

— Уводзіны сьвяткуюць на восьмай нядзелі ад Пакроў, — вылічала бабка Тацяна: — Колькі-ж гэта нядзель ад Пакроў?

— Ну, якраз восьмая нядзеля і пайшла, — сказала Аўгеня.

— Мабыць, сьвята — такі сяньня, — пасьля развагі прамовіў дзед Стукач, кінуўшы на зямлю лапаць, і пачухаў галаву ніжэй лысіны.

— Матка! А калі гэта да нас Шпак з будкі прыходзіў? — спытала адна маладзіца сваю сьвякроў, бабку Тацяну. — Тады казалі, што да гэтага сьвята засталося адзінаццаць дзён.

Дзед Стукач, бабка Тацяна, нявесткі і старэйшы сын Стукача, Апанас, пачалі вылічаць, калі ў іх быў Шпак з будкі. Выходзіла, што адзінаццаць дзён якраз прайшло. Бабка Тацяна вынесла авою прасьніцу, маладзіца Мар'яна сказала, што куцьця ўжо даўно стаўклася; крупы выбралі, а ступу выкацілі вон у сені. Раз сьвята, дык сьвята. Аўгеня пайшла дадому, пэўная ў тым, што сяньня сьвята. Не заходзячы ў хату, яна заскочыла да Лукаша ў клуню і накрычала на яго, што ён не сьвяткуе і яе зьбіў і ўвёў у грэх.

— Ты-ж паслухай, стары пень, ці малоціць хто?

Югасю, у сваю чаргу, занепакоіла старая Лукашыха: а можа, і праўда, што заўтра сьвята? Накінуўшы кажух, яна пайшла да свае кумы Насты. Наста цьвёрда вяла падлік сьвятам і срога сачыла за квадрамі месяца.

# З жыцьця беларускае моладзі ў ЗША

## ГАДАВЫ СХОД АДДЗЕЛУ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ Ў НЬЮ ЁРКУ

30 кастрычніка адбыўся сход ЗБМ у Амэрыцы, аддзелу ў Нью Ёрку. На сходзе была прысутная ладная грамада моладзі з прадстаўнікамі старэйшага грамадзтва. Ад Галоўнай Управы БАЗА сход вітаў старшыня М. Тулейка.

Справаздачу зь дзейнасьці ўправы зрабіў сп. В. Паланевіч. Хоць справаздача была вельмі скромная, аднак неабходна адзначыць праяўленую дзейнасьць аддзелу. У гэтым гадзе выдаваўся Бюлетэнь Моладзі (да часу сходу выйшла 18 нумароў), які здабыў папулярнасьць сваім цікавым зьместам ды арыгінальнасьцяй. Бальшыня моладзі наведвала курсы беларусаведы ды праводзіла зборкі рэгулярна кажную пятніцу ў памешканьні ІВКА. Арганізацыя мае свой хор і танцавальны гурток, якімі кіруе сп. А. Валюшка. Управа мае багаты альбом здымкаў зь дзейнасьці ды фільм накручаны сябрам М. Ськіндэр з Параду Лялльнасьці. Асабліва вялікую актыўнасьць праявіла моладзь у галіне спорту ў Нью Ёрку, Нью Брансьвіку ды Кліўлэндзе, куды выяжджала на спаборніцтвы. Спартовая дзейнасьць Беларускага Спартовага Клюбу зьвярнула ўвагу навет амэрыканскага грамадзвта. Прыкладам, газэта «Greenpoint Star» штотыдня друкуе паведамленьні й артыкулы аб тым, што робіцца ў Беларускім Клюбе. Польскі дзёньнік «Новы Сьвят» таксама пачаў даваць весткі аб Клюбе.

Уступаючай управе прызнана абсалюторыюм з падзякай.

Новы ўрад быў выбраны ў наступным складзе: старшыня — М. Казьлякоўскі, сябры — Г. Лысюк, М. Тулейка, В. Станкевіч і Каця Мельяновіч; у рэвізійную камісію ўвайшлі: П. Алексы (старшыня), Я. Шапялюк і М. Дэркач.

Новая ўправа вельмі добрая, бо ў яе ўвайшлі запраўды адзінкі адданыя арганізацыйнай справе, а гэта будзе зарукай, што дасягненьні будучага году напэўна будуць яшчэ большыя.

**К. Мерляк**

## СЯБРОЎСКІ ВЕЧАР, ПРЫСЬВЕЧАНЫ «ДНЮ ЎДЗЯЧНАСЬЦІ»

Thanksgiving Day — Дзень Ўдзячнасьці, прыпадае заўсёды на апошні чацьвер месяца лістапада, а сёлета на 24-га гэтага-ж месяца. Гэтае сьвята, адзінае па свайму характару, з надзвычайнай урачыстасьцяй сьвяткуецца толькі ў Амэрыцы. Гэтым днём кажны выражае сваю ўдзячнасьць за гадавы плён, сабраны на Амэрыканскай зямлі. Сьвяткаваньне распачынаецца багаслужбамі ўва ўсіх цэрквах і дамох малітваў бяз розьніцы веравызнаньня, навет бываюць выпадкі, што людзі розных рэлігійных напрамкаў моляцца ў гэты дзень разам, выражаючы яшчэ нагляднен сваю ўдзячнасьць за здабытыя плады й дабрадзействы ў Амэрыцы.

З гэтае нагоды і салідарызуючыся з усімі жыхарамі Амэрыкі, Кіраўніцтва нью-ёрскага Аддзелу Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы наладзіла таксама першы раз сяброўскі вечар. Сабралася шмат моладзі ў Tony's Hall і засела за багата-накрытымі сталамі. Тутжа адзначаўся сваею традыцыйнаю павагаю, належна прыгатаваны сяброўкамі ЗБМА, індык. Старшыня Ўправы М. Казлакоўскі прывітаў прысутных з Днём Ўдзячнасьці, перадаючы голас сп. К. Мерляку, які ў сваю чаргу расказаў пра гісторыю й значэньне сьвята, навязваючы да нашых традыцыяў. Пасьля колькіх прынагодных тостаў, пачаліся сьпевы й танцы з паасобнымі выступленьнямі, з паміж якіх найбольшую ўвагу атрымала выкананьне гумарыстычнае песьні «А калі памрэш ты, мой дзядок?» Алай Орсай, у ролі бабкі, і прысутным на вечары адным зь «дзядкоў».

## ЗЬ ДЗЕЙНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАГА СПАРТОВАГА КЛЮБУ ПРЫ ЗБМ У НЬЮ ЁРКУ

23 кастрычніка г. г. на «Іст Рывэр Парк» дружына БСК «Беларусь» выйграла ў змаганьні з моцнай дружынай



**Футбольная дружына БСК «Беларусь»**

Зьлева направа: Аўген Александровіч (вялікі прыхільнік спорту), Вячка Станкевіч, Анатоль Александровіч, Мікола Александровіч, Аўген Лысюк, Павал Алексы, Мікола Каваленка, Гарык Навіцкі, Якуб Шапялюк, Міхась Дэркач, Міхась Ігнат (капітан), Макс Зыгель, Віцька Паланевіч (старшыня ЗБМ у Нью Ёрку). Марка Шэхтэрмэн і Барыс Іванчук ня былі прысутныя ў часе рабленьня здымкі. У гэты дзень дружына «Беларусь» выйграла змаганьне з дружынай «Макабі» з вынікам 6 : 0.

«Юнайтэд Кінгдом» свою першую ліговую гульню з вынікам 1:0.

Спынімся крыху даўжэй над дзейнасьцяй гэтае дружыны. Як відаць із справаздачы дадзенай на гадавым сходзе Клюбу (21 жніўня сёлета), гэтая футбольная дружына за першы год свайго існаваньня дасягнула паважных вынікаў. Яна належыць да «Мэтраполітэн Лігі» Нью Ёрку, а ў лігавых спаборніцтвах здабыла чацьвертае месца з гэткімі вынікамі: выграных — 7, зрэмісаваных — 4, прайграных — 3. Апрача гэтага, «Беларусь» правяла 13 сяброўскіх мэчаў з дружынамі, што не належаць да «Мэтраполітэн Лігі», з вынікамі: выйграных — 7, зрэмісаваных — 2, прайграных — 4.

БСКлюб мае яшчэ валейбольную і пінг-понгавую дружыны, ды робіць заходы дзеля арганізацыі іншых галінаў спорту.

## ЗАНЯТКІ МОЛАДЗІ

У Брукліне, у памешканьні УМСА, адбудуцца рэгулярна што пятніцы, а гадзіне 19,30, зборкі моладзі згодна наступнага пляну:

25 лістапада: а) высьвятленьне кінофільму «America Wonderland». — б) гутаркі на тэмы: Палесьсе, Віленшчына і Наваградчына;

2 сьнежня: а) падгатоўка песьняў і народных танцаў на калядні выступ у УМСА; б) гутарка пра калядні́я звычаі ў Беларусі;

9 сьнежня: а) падгатоўка песьняў і народных танцаў на калядні выступ у УМСА; б) высьвятленьне фільмаў з футбольных гульняў каманды «Беларусь» і зь вясельля Мікалая й Ларысы Коваленкаў; в) лекцыя, чытаная сп. А. Адамовічам;

16 сьнежня: а) апошняя прыгатоўчая зборка перад Калядамі; б) спартовыя заняткі.

**К. Мароз**

# «Між Нёманам і Дзьвіной»

**(Заканчэньне з 2-ой балоны)**

Немцаў. Гэтымі-ж самымі «змагарамі» папоўніліся потым шэрагі польскае «партызанкі», якая атрымоўваючы зброю ад Немцаў, мела заданьне змагацца з савецкімі партызанамі, а фактычна яна выкарыстоўвала й далей гэтае палажэньне для зьнішчаньня беларускае інтэлігенцыі й сьведамага сялянства. Барбарскія пагромы Беларусаў гэтымі «польскімі сіламі збройнымі» ў Лідчыне, гэта нязмытая пляма на польскім гонары й сумленьні.

І як-жа цынічна й пасавецку ў супастаўленьні з вышэйсказаным гучаць словы аўтара гэтага разьдзелу, які, гаворачы аб вернасьці Беларусаў у арміі Андэрса, піша: «У дзённых загадах паўтараюцца іхныя імёны, крыжы падаюць на грудзі тых, што выжылі, крыжыкі на магілы тых, што палеглі» (б. 246).

Так, яны мелі гонар і адвагу, прайшлі крывавы шлях разам з польскім жаўнерам, ды толькі ў той час ня ведалі, што калі яны паміраюць пад польскім сьцягам, дык там на бацькаўшчыне іхныя бацькі, сёстры, браты гінуць ад кулі польскага «партызана».

Крыўды, якіх зазнала ня толькі краіна «між Нёманам і Дзьвіной» ад Палякаў, але і ўся Заходняя Беларусь, яшчэ сьвежыя ў памяці народу. Аднак ці варта крывавіць гэтыя сьвежыя раны? Беларускі народ, аб чым ведаюць і самі Палякі, ня імсьцівы.

Дзеля таго, нам здаецца, што для будучага суседзкага сужыцьця было-б куды лепш, каб Палякі замест сэнтымэнтальна капацца ў беззваротным мінулым ды ўваскрошваць у памяці рамантыку «крэсовых» двароў ды шляхоцкіх засьценкаў, глянулі нарэшце рэчаіснасьці ў вочы.

Ці-ж дапаможа што-небудзь пісаньне аб дабрадзействах польскае культуры на «крэсах», калі навет таму «крэсоваму хаму» было ясным, што на загад паліцыі пабелены плот ці ўборная не зьяўляюцца яшчэ дастатковым паказьнікам культуры? Ці-ж можа нас зблізіць лёзунг за «Нашу і вашу свабоду», аплёваны аматарамі польскай «моцарствовасьці» й пахаваны ў Картускай Бярозе?

Яшчэ тым больш недарэчна гаварыць, пры гэткім настаўленьні Палякаў, аб якіхсьці «ягелёнаўскіх традыцыях»; гэтая традыцыя была загубленая самымі Палякамі дзьвесьце гадоў таму, а ў ейную магілу яшчэ й сяньня сябры лёнданскага клюбу «зем пулноцно-всходніх» пры кажнай нагодзе ўбіваюць асінавы кол.

Найсьвяжэйшым такім калом быў другі пункт г. зв. Карты вольных Палякаў прынятай у лістападзе на масавым зьезьдзе Палякаў у Манчэстары. Гэты пункт выглядае так: «Будзем вытрывала змагацца за свабоду нашай бацькаўшчыны — Польшчы ў ейных поўных межах з Львовам і Вільняй на ўсходзе, Вроцлавам і Шчэцінам на захадзе». Праўда, тут нічога новага няма, але тым ня менш прыходзіць думка: Палякі лічаць за крыўдную несправядлівасьць нямецкія дамаганьні звароту страчаных земляў, але ці-ж Немцы ня большае маюць права на Вроцлаў і Шчэцін, чымся Палякі на Львоў і Вільню, калі кіравацца толькі сэнтымэнтамі?

Нацыянальны эгаізм і імпэрыялізм зьяўляюцца рысамі ня толькі Палякаў. Аднак гэтыя рысы не перашкаджаюць, каб цьвяроза глядзець на справы, рэальна падыходзіць на мэтаў і магчымасьцяў свайго народу. У выпадку-ж Палякаў, тут такое засьляпленьне, што бальшыня зь іх яшчэ й дагэтуль ня можа пагадзіцца з думкай, што Беларусь, гэта ня Польшча, а Беларус — не Паляк. І тут мімаволі прыпамінаецца, што навет той самы Заходні Вучоны з «Тутэйшых» пайшоў далей за сваіх суродзічаў, калі ён пісаў: «Пшы баданю бялорусіна высьветлёно надзвычайнэн асоблівосьць, а мяновіце вбрэв гісторычным, гэографічным, этнографічным, лінгвістычным і дыплёматычным баданём і росправом вшэхпольскім, ойчызнэн свон бялорусіні называён Бялорусь».

**А. Галубіцкі**

# Па лягерах і асельлях

Амбэрг — старое нямецкае места, пабудаванае яшчэ за часоў Рымскае Імпэрыі. Як довад гэтага паходжаньня, сярод места стаіць старая цытадэля. Але ці варта аб гэтым расьпісвацца...

На паўдзённы-ўсход ад места знаходзіцца асельле Бэргштайн. Яно займае плошчу, прыблізна, каля двух квадратовых кілямэтраў і заселенае пару тысячамі былых ДыПі розных нацыянальнасьцяў.

Адразу пры ўезьдзе кідаецца ў вочы бязгустоўна пабудаваная мадэрная каталіцкя царква. Яна мае выгляд пуні з прыбудаванай збоку нейкага сьмешнага стылю вежай, і, каб ня крыж, дык ніколі ня можна было-б падумаць, шо ў гэтым будынку месьціцца царква.

Цэлае асельле, таксама як і сьвятыня робіць нейкае прыгнятаючае ўражаньне. Па бакох панурыя мураваныя будынкі, памаляваныя нявыразнага колеру хвар-бай, а пасярэдзіне — куча драўляных баракаў. Навокал ходзяць людзі, што маюць гэткі самы прыгнечаны выгляд, як і гэтыя мураваныя скрыні.

Заходзім у бюро. Урадовец вельмі ветлівы. На нашы пытаньні аб маральным стане жыхароў, адказў: «Людзём не стае працы, і таму сярод іх такая абыякавасьць. Да гэтага яшчэ яны ўсе ведаюць, што, жывучы ў Амбэргу, яе ніколі не атрымаюць, таму што тут няма бадай ніякае прамысловасьці».

Міжвольна насоўваецца пытаньне: Чаму ўрад будаваў асельлі ў гэткіх глухіх мясцох, як, прыкладам, Амбэрг, Пасаў, Дэгэндорф, Розэнгайм і інш. Бо-ж на гэтую мэту былі выдадзены мільёны марак, а што з гэтага за карысьць?

Заходзім ў першую кватэру. Падлога зь нейкае масы (бэтон з асфальтам), пад прыкрыцьцём нейкае чырвонае плясты-

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

---

— Я ўжо чула, што некаторыя зьбіраюцца сьвяткаваць сяньня, але сьвята, я напэўна ведаю, заўтра. Піліпавы хлопцыўжо даўно паехалі ў лес зь сякерамі.

Не прайшло і чвэрці гадзіны, як па ўсёй вёсцы толькі і было гутаркі, што пра сьвята, пры гэтым ясна адзначыліся два станы: сьвяточны і будны. Кажны стан меў вельмі паважных прадстаўнікоў свайго кірунку, што ніякім чынам не маглі дайсьці да згоды, бо кажная рука мела вельмі моцныя доказы, на якіх засноўваліся іх пазыцыі наконт сьвята.

Самы рух пачаўся тады, як пачынала ўжо ўсходзіць сонца. На працягу ўсяе вуліцы то там, то сям стаялі кучкі паляшукоў і паляшучак, дзе меншыя, дзе большыя, і ў кажнай кучцы ішла спрэчка аб сьвяце. Усе цельшынскія законьнікі і законьніцы сышліся тут і горача судзілі погляды супраціўнага стану.

Мікіта Тарпак, вылажыўшы ўсе доказы за заўтрашні дзень і ніколечкі ня зрушыўшы станоўкасьці пагляда̂ў сваіх супярэчнікаў, плюнуў, сярдзіта павярнуўся і пайшоў да свайго двара. Яго рашучая хада і выраз твару ясна казалі, што ён надумаўся зрабіць нешта такое, што павінна стварыць моцнае ўражэньне і прынізіць тых, хто быў ня згодзен зь ім. Ён выцягнуў панарады, палажыў на іх дошкі і стаў навальваць гной, хоць вывозіць яго цяпер ніколі ня меў на ўвазе. Наклаўшы воз гною, ён запрог каня і важна паехаў уздоўж вуліцы, высока паставіўшы сахор. Пад'ехаўшы да тае кучкі народу, дзе ён нядаўна вёў дарэмную спрэчку, Мікіта прыпыніўся і стаў папраўляць хамут, не зварачаючы ні на кога ўвагі, усё роўна як-бы гэта была яго звычайная работа. Як толькі Мікіта павярнуў з вуліцы ў поле, зараз-жа з таго боку, адкуль ён прыехаў, каля студні, пачуліся два жаночыя крыклівыя галасы. Галасы ўсё мацнелі і набіралі болей злосьці. Гэта лаялася Аўдоля Латачыха з жонкаю Мікіты, Акуляю. Яны даўно ўжо былі не ў ладах, цяпер-жа гэта сьвята сталася зачэпкаю для таго, каб даць волю языком. Латачыха сыпала словы, як гарох. Мусіць, ня раз практыкавалася яна ў сваіх мысьлях у гэтай лаянцы. Здавалася, яна толькі адчыніла рот, а словы самі, як зь мяшка, сыпаліся і сыпаліся. Акуля не паддавалася. Жанкі крычалі то па чарзе, то адначасна. Палаяўшыся з поўгадзіны каля студні, яны разышліся: адна пайшла ў вадзін канец вуліцы, другая — у другі, бо ім збрыдла лаяцца, і гэта не давала жаданых вынікаў. І, каб дапячы адна другой, яны пайшлі па вёсцы выстаўляць адна другую перад людзьмі. Тут мелася на ўвазе, галоўным чынам, вайстрэй падцяць свайго ворага.

— Ах ты, чортава шлюндра! Пайшла па вуліцы зубамі званіць, языком мянціць, каб ён табе высах ды выпетраў, — крычала Акуля. — Ідзі, ідзі так вось і паверaць табе, брахуне. Думаеш, ня ведаюць людзі, як ты да Міхалкі ў клуню бегала, га? Ведаюць людзі, за што цябе Крупеніч з разьезду гарэлкаю частуе, каб цябе лейцамі частавалі... Ведаюць, ня думай таго!.. Ты думаеш, ня ведаюць, як ты з дарожным майстрам ночы гуляеш, як ты ў яго дзесяць рублёў падчапіла!.. Капач ты з-пад цёмнае хмары, хлеба замясіць ня ўмееш, хаты ніколі, як людзі, не падмяцеш, каб табе вочы замяло!

Аўдоля, у сваю чаргу, ідучы ў другі канец вуліцы, вяла сваё казаньне. Жанчыны зрэдку прыслухоўваліся адна да другой для далейшай лаянкі.

— На мяне людзі глядзяць, бо я харошая, а на цябе і сабакі пазіраць ня хочуць. Зайздрасна табе?.. А ты забылася, як цябе бабка Тацяна на сваім дварэ злавіла! Чаго-ж ты хадзіла туды? Чужых курэй сачыць? А гарбузы з гарода ў Рамковых хто цягаў, каб зь цябе кішкі павыцягалі? А хто, калі ня твой Мікіта, у дзеда Андрэя бараніну краў? Гэтага, можа, ня ведаюць людзі, дык няхай-жа ведаюць...

Паляшукі стаялі, як срогія і справядлівыя судзьдзі, але сур'ёзныя твары іх часта рабіліся вясёлымі, і дружныя покаты сьмеху напаўнялі вуліцу. Пры гэтым паляшукі, як па камандзе, адкідалі назад галовы і выпучвалі жываты. Але гэта было толькі ў тых выпадках, калі якая-небудзь з кабет, пераступіўшы ўсякія граніцы жаночага ўшанаваньня, адпускала штось вельмі жыцьцёвае і сакавітае. І ўсё-ж-такі вёска ня прышла да згоды. Адны сьвяткавалі сяньня, другія — заўтра. А некаторыя, каб не ашукацца, сьвяткавалі два дні.

Гэта няяснае пытаньне аб сьвяце адбілася і на школе. Лабановіч, прышоўшы на заняткі, заўважыў, што паловы вучняў няма.

— Чаму-ж вас так мала прышло?

Дзеці перадалі гісторыю спрэчкі аб сьвяце, а разам з тым і прычыну адсутнасьці вучняў.

### XI

Работа ў школе наладзілася.

Малады настаўнік укладаў у яе сваю душу і сэрца. Кароткія зімнія дні праходзілі незаметна, іх не хапала на тое, каб як сьлед правесьці работу. Як толькі добра разьвідняялася і была магчымасьць весьці лекцыі, Лабановіч ішоў у школу, разьмеркаваўшы сваю работу між чатырох груп.

Многа патрабавалася ўменьня на тое, каб кажная група была занята і не сядзела без работы. Многа трэба было энэргіі і стараньня, каб кажная група была зацікаўлена ў сваёй рабоце, каб увесь час трымаць школу на вышыні таго ці іншага настрою. Удзень вучні распускаліся на паўтары гадзіны для абеду. Пасьля лекцыі зноў ішлі да самага вечара, пакуль не цямнела. Часта із старэйшымі вучнямі лекцыі вяліся і вечарамі пры лямпе. Потым настаўнік яшчэ доўга сядзеў над сшыткамі і папраўляў іх. Маладых сіл было многа; здавалася, ніколі ня вычарпаеш іх, і расходаваліся яны так, як расходуе з восені заможны, але маладасьветчаны і непрактычны гаспадар багаты збор ад свае нівы.

Але ў сваёй рабоце чэрпаў малады настаўнік і поўную чару высокага задавальненьня, назіраючы, як дзеці набіраліся знаньня, лёгка асільвалі тое, што яшчэ ўчора здавалася ім незразумелым і трудным. Больш разьбітных і здольных любіў ён той любасьцю, якая можа быць толькі ў настаўніка да сваіх выхаванцаў. Ім і дазвалялася шмат таго, чаго не павінны былі рабіць звычайныя вучні, бо ў Лабановіча ў школе наогул быў срогі парадак. Хоць патураньне было і шкоднае з пэдагагічнага боку, і Лабановіч гэта ведаў, але падолець гэту сваю слабасьць ня мог ніякім чынам. З другога боку, трэба сказаць, што ад лепшых вучняў і вымагалася болей. І нейкая ўцеха брала маладога настаўніка, гледзячы на гэтых маленькіх змыслых паляшучкоў.

Скончыўшы навучаньне і перагледзеўшы работы вучняў, Лабановіч часта падводзіў падрахункі дню; пры гэтым разважаў ён і аб тым, як абыйсьці тыя пахібы і памылкі, якіх так трудна бывае пазьбегнуць у школе маладому, малавопытнаму настаўніку. Усе тыя спосабы, якія так гладка і проста апісаны ў мэтодыках, часта зусім не падыходзілі і не адпавядалі ўмовам школы, трэба было тут-жа выдумляць іх самому. А колькі часу прыходзілася траціць на тое, каб дастасаваць мову дзяцей да кніжнае мовы! І колькі сьмешных і непажаданых выпадкаў вынікала на грунце гэтага непаразуменьня ў школе, дзе мова мацеры зьневажаецца і забіваецца!

Часамі Лабановічу здавалася, што школа адстае, што вынікі дасягнуты нязначныя, і што, наогул, ён няважны настаўнік. Трэба ўжыць тут штось новае, трэба аджывіць школу, бо спосабы яго заняткаў так застарэлі, што напэўна перасталі быць цікавымі для дзяцей. У такія мінуты настрой яго спадаў, яму рабілася не па сябе.

«Трэба будзе даведацца да Турсэвіча і пабачыць, як ён вядзе сваю справу», — падумаў Лабановіч і цьвёрда вырашыў у першае-ж сьвята паехаць да свайго старога настаўніка.

**(Далей будзе)**

# Зь беларускага жыцьця ў ЗША

### АГУЛЬНЫ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА Ў НЬЮ ЁРКУ

23 кастрычніка сёлета ў Нью Ёрку адбыўся чарговы агульны сход сяброў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня — аддзелаў Бруклін, Мангэттэн і Маспэт. Гэтыя аддзелы твораць акругу, якая зьяўляецца каардынацыйнай і адміністрацыйнай адзінкай.

Сход адкрыў старшыня К. Мерляк, прапануючы выбар прэзыдыюму сходу, у які былі выбраныя Я. Менскі й Я. Каханоўская, як сакратары.

Агульную справаздачу зрабіў уступаючы старшыня. З гэтае справаздачы відаць, якую вялікую актыўнасьць праявіла ўправа на працягу цэлага году: добра зарганізаваныя імпрэзы, як сустрэча Навага Году, сьвяткаваньне 25 Сакавіка, удзел у Парадзе Ляяльнасьці й інш. Упяршыню была зарганізаваная школа для дзяцей і курсы беларусаведы для моладзі. Праведзена рэарганізацыя аддзелаў. Пастаўлена на належны ўзровень адміністрацыя ды фінансавая гаспадарка. Праяўлена шырокая прапагандовая дзейнасьць, як сярод Беларусаў, так і навонкі, з чаго трэба адзначыць перадусім папулярызацыю беларускае справы праз прэсу (The New York Times, The Saturday Evening Post і інш.) ды радыё. Была закладзена таксама бібліятэка, якое дагэтуль у Нью Ёрку ня было, дзе за год сабрана вялікую колькасьць беларускіх выданьняў, а таксама й чужых, якія кранаюць у той ці іншай форме беларускія справы. У канцы свае справаздачы старшыня дзякаваў сябром управы сп. Н. Арсеньневай, сп. А. Адамовічу ды сп. Буньчуку за ўкладзеную працу ды ўсім тым, хто дапамог і прычыніўся да дасягненьня вышэй пералічаных мерапрыемстваў.

Пасьля справаздачы вывязалася вельмі жывая дыскусія, у якой забірала голас бальшыня прысутных сяброў.

На прапанову рэвізійнай камісіі, уступаючай управе быў прызнаны абсалютарыюм з падзякай, а старшыні сп. К. Мерляку вынесена адмысловая падзяка за праяўленую актыўнасьць ды арганізацыйную дынаміку.

Пасьля прыступілі да выбараў новае ўправы, якія аднак не адбыліся з прычыны недахопу часу, бо папярэдняя дыскусія ды падбор кандыдатаў занялі ўвесь прадбачаны час, і агульны сход быў адложаны да наступнага скліканьня, з тым, што працу будзе выконваць надалей былая ўправа ад імя прэзыдыюму сходу, як часовая ўправа.

### АГУЛЬНЫ СХОД ВЭТЭРАНАЎ

25 верасьня сёлета адбыўся агульны сход сяброў Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў аддзелу Нью Ёрк. На старшыню сходу быў выбраны К. Марляк, а на сакратара В. Кажан. Старшыня ўступаючай управы В. Данілюк зрабіў справаздачу зь дзейнасьці аддзелу за мінулую кадэнцыю. Із справаздачы відаць, што асноўная праца вэтэранаў за гэты пэрыяд — гэта наладжаньне ў леташнім годзе акадэміі ў чэсьць Слуцкага паўстаньня ды ўдзел ў Парадзе Ляяльнасьці.

Пасьля прызнаньня абсалюторыюм уступаючай управе, былі праведзеныя выбары ў новую ўправу. У яе ўвайшлі: старшыня — Ул. Курыла, скарбнік — Д. Клінцэвіч, сакратар — П. Манькоўскі.

Шырока быў абгавораны плян дзеяньня на прышлую кадэнцыю. Між важнейшымі заданьнямі пастаноўлена зладзіць акадэмію ў чэсьць Слуцкага Паўстаньня з удзелам хору вэтэранаў, якім кіруе сп. Каптуровіч, ладзіць рэфэраты на вайсковыя тэмы, праводзіць зборку грошаў на дапамогу вэтэранам і г. д.

На сходзе закраналася справа Галоўнага Кіраўніцтва Вэтэранаў і Камбатантаў на Чужыне, дзе высьнілася, што кіраўніцтва існуе, але, нажаль, не праяўляе ніякае дзейнасьці.

**К. Мерляк**

### РЭФЭРАТ У АДДЗЕЛЕ НЬЮ ЁРК БАЗА

У сыботу, 5 лістапада сёлета, д-р Я. Станкевіч прачытаў рэфэрат на тэму «Паходжаньне Беларускага Народу». Рэфэрат абыймаў часы дагістарычныя, між другім і восьмым стагодзьдзем, пабудаваны ў васаблівасьці на навуковых археалягічных доследах, якія паказваюць, што прыбытыя на сучасную тэрыторыю Беларусі Славяне зьліліся з пражываючымі там Балтамі, ствараючы такім чынам плямёны, зь якіх склаўся беларускі народ.

Дыскусія была вельмі жывая і цікавая, у якой закраналіся розныя аспэкты і супярэчнасьці тэзы дакладчыка. На пытаньне, ці сяняшнія Летувісы й Латышы зьяўляюцца нашчадкамі тагачасных Балтаў, дакладчык заявіў, што ён ня можа сказаць так ці не, бо гэта яшчэ патрабуе глыбейшых доследаў.

### СХОДКА НАСТАЎНІКАЎ НЬЮ ЁРКУ

11 лістапада сёлета адбылася сходка настаўнікаў, што жывуць у Нью Ёрку, скліканая зь ініцыятывы Часовай Акруговай Управы. На гэтай сходцы разглядаліся справы асьветы для беларускай моладзі й дзяцей. На сходзе пастаноўлена працягваць курсы беларусаведы для моладзі, якія былі запачаткаваныя Акруговай Управай у мінулым годзе, з падваеньнем колькасьці гадзінаў для заняткаў.

Таксама пастаноўлена арганізаваць дзьве школкі для дзяцей, адну на Мангатане, другую ў Брукліне, якія павінны пачаць працу з палавіны лістапада сёлета.

### ВЕЧАРЫНА БЕЛАРУСКАГА СПАРТОВАГА КЛЮБУ Ў НЬЮ ЁРКУ

Беларускі Спартовы Клюб у Нью Ёрку пры Згуртаваньні Беларускай Моладзі ладзіў вечарыну ў сыботу, 12 лістапада, у Ленокс Голл Нью Ёрку. Вечарына была надзвычайная. Адрозьнівалася ад папярэдніх тым, што была лепш зарганізавана: працаваў спраўна буфэт, японская пошта, таксама ўдала праведзеная лятарэя. Аб добрай падрыхтоўцы, што заўдзячваецца кіраўніцтву Клюбу, сьветчыла перапоўненая заля. На вечары вычувалася агульнае задаваленьне і сяброўскі настрой. Кіраўніцтва Клюбу пэўна засталося задаволеным такім посьпехам, таксама папаўненьнем свае касы.

**К. Мароз**

# Беларусы ў Бельгіі

### Гадавы сход БСЗ ў Лювэне

10 лістапада сёлета адбыўся чарговы гадавы сход Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Лювэне. Сход адкрыў кароткім словам старшыня ўступаючай управы сп. М. Ягаўдзік. Пасьля выбараў прэзыдыюму сходу, слова ўзяў старшыня «Акадэмікусу» сп. А. Арэшка. Ён зрабіў агульны гістарычны агляд БСЗ і паўстаньня «Акадэмікусу», затрымаўшыся над роляй ды супрацоўніцтвам гэтых дзьвюх арганізацыяў. Ён адцеміў таксама, што толькі цесная лучнасьць, супрацоўніцтва й сьведамасьць абавязкаў дадуць пажаданыя вынікі. Ён пажадаў плённае працы БСЗ у гэтым кірунку.

З прачытаных справазданьняў было відаць, што БСЗ прарабіла шмат працы ў мінулым годзе. Галоўным з гэтага былі — канцэрты беларускіх песьняў і танцаў ды сацыяльная дапамога беларускім работнікам у Бэльгіі. Уступаючай управе быў прызнаны абсалюторыюм з падзякай. У склад новай управы ўвайшлі: старшыня — С. Мак, сакратар — Тацяна Родзька, скарбнік — Ул. Бакуновіч, адміністратар — А. Лазанаў.

На заканчэньне сходу айцец Робэрт ван Каўэлярт заклікаў Управу БСЗ і ўсіх беларускіх студэнтаў да шчырае й адданае працы. Ён адцеміў, што, бязумоўна, у першую чаргу трэба вучыцца, але тут-жа дадаў, што для нас ня так ужо й важны студэнт ці студэнтка, якія надзвычай добра вучацца, але затое нічога ня робяць для агульнае беларускае справы. «Для нас важны той, — гаварыў далей а. Робэрт, — хто працуе. і працуе не для сябе, а для грамады й для свайго народу. Бязумоўная рэч, лік нашых студэнтаў значна зьменшыўся, і рэалізаваньне нашае праграмы будзе цяжэйшае, але гэта ня значыць, што мы ня зможам зрабіць таго, што рабілі раней, калі нас было больш. Не забывайцеся, што кажны з вас — адказны прадстаўнік свайго народу й свае бацькаўшчыны... І навет, калі дойдзе да таго, што застанецца адзін беларускі студэнт на Лювэнскім Унівэрсытэце — ён зможа зрабіць шмат...»

Кажны студэнт вельмі добра зразумеў і прыняў да сэрца словы а. Робэрта. Застаецца толькі пажадаць, каб так-жа кажны хутка не забыўся на іх, а сумленна й аддана выконваў свой абавязак.

Айцу Робэрту застаецца скласьці шчырую падзяку за ягоную адданую й безьінтарэсоўную працу для нашае нацыянальнае справы. Кажны беларускі студэнт, хто прайшоў праз Лювэн ці яшчэ тут знаходзіцца, вельмі добра ўсьведамляе сабе, што значыць для нас гэты ахвярны чалавек.

Прапанова старшыні сходу сп-ра Арэшкі выслаць прывітальную тэлеграму Прэзыдэнту БНР была прынята аднагалосна.

Сход закончыўся адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

### АБСАЛЬВЭНТЫ ЛЮВЭНСКАГА ЎНІВЭРСЫТЭТУ

У мінулым годзе ўвосень у «Бацькаўшчыне» быў зьмешчаны артыкул п. н. «Першыя працэнты зь Лювэнскага капіталу», дзе пісалася аб новых беларускіх абсальвэнтах Лювэнскага Ўнівэрсытэту. Прайшоў яшчэ адзін год і гэтыя «працэнты» ўзрасьлі. Сем новых абсальвэнтаў, пасьля колькігадовых студыяў выйшлі ў новае жыцьцё із здабытымі ведамі.

Закончыць студыі ў цяжкіх эміграцыйных умовах — справа ня лёгкая. Для эміграцыйнае-ж грамадзкасьці ды наагул для нашае справы пабольшаньне кадраў інтэлігенцыі — гэта новае десягненьне.

Сёлетнімі беларускімі абсэльвэнтамі зьяўляюцца сп. сп.:

**Савёнак Зора** — магістар хімічных навук, дыплёмная праца з аналітычнае хіміі «Спэктральны аналіз зялезістых мінаралаў»;

**Цімафейчык Тодар** — мгр. палітычных і адміністрацыйных навук, дыплёмная праца «Дзяржаўныя органы БССР»;

**Шчэцька Васіль** — мгр. палітычных і адміністрацыйных навук, дыплёмная праца «Адміністрацыйная арганізацыя Парыжу»;

**Ягаўдзік Мікола** — мгр. палітычных і сацыяльных навук, дыплёмная праца «Савецкая палітыка працы (1917-1940)»;

**Арцюх Мікола** — мгр. камэрцыйных і фінансавых навук, дыплёмная праца «Купецкія банкіры Лёндану»;

**Галоўка Мікола** — мгр. агранамічных навук, дыплёмная праца «Фізыка-мэханічны аналіз алювіяльных глебаў даліны Моленбэк».

З асаблівай прыемнасьцяй даведваемся, што сп. **Вітаўт Кіпель** абараніў з выдатным вынікам доктарскую дысэртацыю на тэму: «Сьлюды некаторых пэгматытаў Бельгійскага Конго» і дадатковую тэзу «Клясыфікацыя форамініфэраў паводля Парра», атрымаўшы тытул доктара геалягічных і мінэралягічных навук. У сучасны мамэнт др. Кіпель працуе над тэмай «Прамысловасьць Беларусі на мясцовай мінэральнай сыравіне».

Як нас паведамляюць, Бэльгійскае Геалягічнае Таварыства запрасіла д-ра Кіпеля зрабіць экспозэ свае тэзы для сяброў гэтага Таварыства.

Рады нашае інтэлігенцыі папоўніліся новымі сіламі, якія пяроймуць ад старэйшых частку грамадзкае й нацыянальнае працы. З свайго боку Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» шчыра вітае новых абсальвэнтаў і спадзяецца, што яны пашыраць таксама і кола супрацоўнікаў нашае газэты.

### ШУКАЮЦЬ

**Янка Лукашэвіч** шукае сваіх бацькоў **Пятра** й **Ганну**, братоў **Паўла** й **Аляксея**, сёстраў **Кацю** й **Любу Лукашэвічаў** зь вёскі Красная Воля, воласьць Лахва, павет Лунінец. Шуканыя, паводля апошніх вестак, жылі ў Бэрліне ў 1945 г.

Пісаць просіцца на адрас:

Mr. Janka Lukaszevicz
2444 W. 5th St.,
Cleveland 13, Ohio, USA.

## УВАГА!

### УМОВЫ ПАДПІСКІ НА «БАЦЬКАЎШЧЫНУ» Ў 1956 Г.

| Край | На год | На 6 м-цаў | На 3 м-цы | 1 нумар |
|---|---|---|---|---|
| ЗША й Канада | 8 дал. | 4,50 д. | 2,50 д. | 20 цэн. |
| Ангельшчына й Аўстралія | 30 шыл. | 21 шыл. | 12 шыл. | 1 шыл. |
| Нямеччына | 14 н. м. | 7,50 нм | 4,25 нм | 30 фэн. |
| Бэльгія | 210 б фр. | 120 б фр. | 75 б фр. | 5 б фр. |
| Францыя | 800 фр. | 450 фр. | 250 фр. | 20 фр. |
| Аргэнтына | 80 пэз. | 45 пэз. | 25 пэз. | 2 пэз. |

Падпішчыкі ў заакіянскіх краёх, якія хочуць атрымоўваць «Бацькаўшчыну» лётніцкай поштай, павінны аплаціць згары кошты перасылкі з разьліку 30 ам. цэнтаў за нумар (падвойныя нумары каштуюць падвойна).



Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.

# Па лягерах і асельлях

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

кі, вельмі халоднае, што навет улетку нельга хадзіць па ёй басанож. У гэтай кватэры, на плошчы якіх-небудзь 25 мэтраў, жыве сям'я зь 5 асоб. Гаспадар сям'і хворы на сухоты. Трох малых дзяцей — ад 5 да 8 год. Пасьцель складаецца зь сяньнікоў, у якіх ёсьць крыху перацёртае на сечку саломы ды нейкіх ганучаў. Дзеці, як запалоханыя ваўчкі. Гэтая сям'я атрымоўвае на месяц 152 маркі (прыблізна, 36 даляраў), чаго ледзь стае на прахарчаваньне, не спамінаючы ўжо пра вопратку. Па асельлі дзеці бегаюць у старых амэрыканскіх лахах, што калісьці зваліся мундзірамі, ды ў вялікіх не па росьце вайсковых чаравіках. Жах бярэ, гледзячы на ўсё гэта!

У іншай кватэры знаходзім хворую 80-гадовую жанчынру з дачкою 60 гадоў і прыдуркаватым сынам год пад 50, якога нядаўна звольнілі із шпіталю для ўмыслова хворых. 60-гадовая жанчына мусіць даглядаць хворую матку ды прыдуркаватага брата. На пражыцьцё яны атрымоўваюць толькі 97 марак на месяц (каля 24 даляраў).

Зусім малы працэнт мае якую-колечы працу. Тыя, што працуюць часова, атрымоўваюць ніжэйшую плату, як працаўнікі-Немцы. Ехаць на працу ў іншае месца, дык зноў цяжка знайсьці памешканьне на месцы працы.

У асельлі шмат такіх, што займаюцца камуністычнай прапагандай ды намаўляюць да пвароту на бацькўшчыну, хоць самі такія агітатары з ад'ездам не сьпяшаюцца, бо дакладна ведаюць, што іх там чакае.

Людзі вельмі запалоханыя, і шмат якія зьвярталіся з запытаньнямі, ці гэта праўда, што маюць прымусова вывозіць у Савецкі Саюз. Да гэтага ўсяго, Амбэрг знаходзіцца недалёка ад чэскае граніцы.

Было-б пажаданым, каб хоць раз на колькі месяцаў хтосьці з цэнтру заглядаў да гэтых людзей ды памагаў ім ліквідаваць непаразуменьні між імі й мясцовымі ўладамі.

У Амбэргу жыве каля 50 асоб Беларусаў.

Аб усім гэтым складзены адпаведны рапарт нямецкім уладам у Мюнхэне.

**С. Падарожны**

## УВАГА! УВАГА!

### БЕЛАРУСКІЯ КАЛЯДНЫЯ ПАШТОЎКІ

Вышлі з друку беларускія калядныя павіншавальныя паштоўкі. Сэрыя складаецца зь 9 розных зімовых краявідаў, упрыгожаных тэкстамі беларускіх паэтаў на зімовыя тэмы. Тыраж паштовак вельмі абмежаваны. Таму радзім не адцягваць з набыцьцём іх.

Зварочвацца просім да нашых Прадстаўнікоў у паасобных краінах, або беспасрэдна ў Выдавецтва «Бацькаўшчыны».

**Выд. «Бацькаўшчына»**

### АСАБІСТАЕ

Беларус у Канадзе хацеў-бы пазнаёміцца зь дзяўчынай або жанчынай да 33 год — Беларускай, Украінкай ці Расейкай — з мэтай жачімства. У гэтай справе просіцца зварочвацца на адрас «Бацькаўшчыны».

# „Ёсьць што самому прачытаць і другім паказаць“

### НАШЫЯ ЧЫТАЧЫ АБ «СПАДЧЫНЕ» ЯНКІ КУПАЛЫ

**Айцец Др. Чэслаў Сіповіч (Лёндан)** да нас піша:

«Выданьне зборніка «Спадчына» ёсьць для нас Беларусаў справай прынцыповай. Мы ня можам задаволіцца савецкімі выданьнямі нашых клясыкаў, дзе сьвятое-сьвятых топчыцца й перакручваецца. Ізноў-жа ня ёсьць прыемным трымаць у руках Купалаўскую кнігу ў мізэрненькай вонкавай вопратцы... Таму вітаю «Спадчыну», што паявілася стараньнямі й коштам Выдавецтва «Бацькаўшчыны». Ёсьць што самому прачытаць і другім паказаць. Шкода толькі, што некаторыя, на чужыне вельмі патрэбныя творы Купалы, не ўвайшлі ў «Спадчыну», прыкладам «Паўлінка».

Шчыра вітаючы манумэнтальнае выданьне твораў Я. Купалы, астаецца пажадаць Выдавецтву «Бацькаўшчыны», каб наступным падаркам для выгнаньніка Беларуса былі творы Багушэвіча, Багдановіча, Аляхновіча, Сваяка...

Спары Божа-»

**Міхал Наўмовіч (Парыж):** «Як Беларус і супрацоўнік моцна цешуся з выхаду яе («Спадчыны» ў сьвет і думаю, што выданьне гэтае прыносіць усім Беларусам на эміграцыі вялікі гонар».

**Канстанцін Мярляк (Нью Ёрк):**

**Высокапаважаныя Спадары!**

Ад пару тыдняў зьяўляюся собсьнікам кнігі «Спадчына», і хоць яшчэ дакладна зь ёю не абзнаёміўся, аднак хацеў-бы падзяліцца з выдавецтвам маім першым уражаньнем.

Кніга надзвычай салідна выглядае, асабліва ў ваправе, і яе вонкавы выгляд ужо запэўнівае чытача аб яшчэ больш салідным і паважным зьмесьце. Выдавецтва можа ганарыцца гэтым выданьнем, якое раўняецца найпаважнейшым выданьням Захаду. Абсалютна няма параўнаньня з тандэтнымі дзяржаўнымі выданьнямі паняволенай Беларусі.

Выхад у сьвет выбраных твораў Я. Купалы, сабраных у «Спадчыне», мае надзвычайную вагу ў нашым нацыянальным змаганьні, як навонкі, сярод чужынцаў вольнага сьвету, так ня менш сярод нас Беларусаў, раськіданых па ўсім сьвеце. Няма сумлеву, што Я. Купала праз «Спадчыну» пабудзіць нашыя масы на эміграцыі, як гэта калісьці рабіў на Бацькаўшчыне, да дзейнасьці, узбудзіць любоў да роднага краю, да свайго народу ды дадасьць ахвоты да далейшага змаганьня за волю і дзяржаўную незалежнасьць.

За падбор выбраных твораў Я. Купалы належыцца падзяка беларускім культурным працаўнікам на эміграцыі.



## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia** 25 Belmont P. de Mount Colah, N. S. W.
**Mr. Donat Jackiewich,** 33 Hope St. Spotswood-Melbourne. Vict.
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd. Midland Junction, Western Australia.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, Tiridentes. Curitiba — Parana.

**БЭЛЬГІЯ:**
**Mr. Vasil Sčecka,** 19, Place Hoover, Louvain.

**ДАНІЯ:**
**J. Lobejko,** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv., Kobenhavn S.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich,** 112 Somerset St. New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 1020 Kenilworth Ave, Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Miss L. Wierny,** 57 Riverdale Ave, Toronto, Ont.

**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič,** 47, Bd de Bezons Sartrouville (S. et O.).
**Mr. Bonifacy Prytycki,** 17, Rue Roger Salengro, Lys les Lannoy (Nord).

**ШВЭЦЫЯ:**
**Basil Lukaszyk,** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.